*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля

**№ 2(584)**

Серада, 6 студзеня 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 5000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.




## Обращение Политсовета Белорусской Республиканской партии

*к народу Беларуси,*
*президенту Республики Беларусь, Верховному Совету Республики Беларусь 13-го созыва*

Непрерывное ухудшение экономического состояния Беларуси, ее международная изоляция, снижающийся уровень жизни рабочих, крестьян, интеллигенции, пенсионеров, разорение большей части предпринимателей являются фактом. Демографическая катастрофа белорусского народа — реальность сегодняшнего дня.

Устранить кризисное состояние можно только кардинальными мерами политического, экономического и социального характера.

Беларусь имеет этот исторический шанс. Им являются легитимные выборы президента республики в соответствии с Конституцией Республики Беларусь, поскольку срок президентства А.Лукашенко заканчивается 20 июля 1999 года.

Мы, граждане Беларуси, не имеем права упустить этот шанс. Мы призываем президента Республики Беларусь создать необходимые условия для проведения демократических выборов, обеспечить свободную дискуссию в средствах массовой информации для всех политических и общественных сил республики, а также — широкое участие международных наблюдателей за процедурой соблюдения демократических принципов во время выборов.

Этот шаг президента позволил бы:

1. укрепить авторитет главы государства;

2. устранить международную изоляцию республики;

3. ликвидировать гражданское противостояние;

4. консолидировать политические силы в направлении разрешения кризисного положения республики;

5. создать условия и формы осуществления правового общества.

**Политсовет Белорусской Республиканской партии.**

## Нацбанк увёў у абарот памятныя манеты

У апошнія дні 1998 года, а таксама 4 студзеня 1999 года, Нацыянальны банк Беларусі ўвёў у абарот памятныя манеты адразу некалькіх серый.

У серыі "Беларусь Алімпійская" (лёгкая атлетыка) уведзены залатая манета вартасцю 50 рублёў і тыражом 500 штук; сярэбраная — вартасцю 20 рублёў і тыражом 1000 штук і медна-нікелевая — вартасцю 1 рубель і тыражом 5000 штук. Медна-нікелевая манета, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча, з выявай паэта выпушчана вартасцю 1 рубель і тыражом 2000 штук.

У серыі "Помнікі архітэктуры Беларусі" з выявай Мірскага замка ўведзены сярэбраная манета вартасцю 20 рублёў і тыражом 2000 штук, а таксама медна-нікелевая аналагічным тыражом і вартасцю 1 рубель. 4 студзеня 1999 года Нацбанк увёў у абарот памятныя манеты серыі "Гарады Беларусі", прысвечаныя Мінску ў гонар 500-годдзя атрымання горадам Магдэбургскага права: сярэбраную — вартасцю 20 рублёў і тыражом 2000 штук, а таксама медна-нікелевую такім жа тыражом і вартасцю 1 рубель.

**Аляксей АРЭШКА.**

Позиция

## Депутаты Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва продолжают предпринимать шаги для проведения в 1999 году президентских выборов

4 января 1999 года состоялось очередное заседание парламентской рабочей группы по подготовке сессий Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.

Рабочая группа должна вынести на сессию Верховного Совета, которая состоится 10 января с.г., список кандидатов, выдвинутых трудовыми коллективами и общественными организациями в Центральную избирательную комиссию по выборам президента Республики Беларусь.

Председатель Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва С.Шарецкий направил список с фамилиями выдвинутых кандидатов на согласование во все областные и Минский городской Советы депутатов. Как и предусмотрено законом, представительные органы изучают в настоящее время данный вопрос.

Семен Георгиевич проинформировал также рабочую группу, что посольства европейских государств с пониманием воспринимают намерение легитимного законодательного органа Республики Беларусь назначить выборы президента РБ по Конституции 1994 года.

Исключение составляет лишь Россия, которая 15 января в Вене на заседании постоянного Комитета ОБСЕ в очередной раз намерена поднять вопрос о легитимизации не избранного народом так называемого Национального Собрания.

Рабочя группа констатировала, что европейские страны, судя по всему, не станут присылать наблюдателей на объявленные президентом А.Лукашенко выборы в местные органы власти. Ведь выборы эти будут проводиться на основании закона, противоречащего не только легитимной Конституции 1994 года, но даже изменениям и дополнениям, внесенным уже после ноябрьского (1996 г.) референдума.

В настоящее время парламентская рабочая группа прорабатывает вопрос о проведения февральской сессии в соответствии с волей избирателей, вручивших мандаты депутатам Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.

**Валерий ЩУКИН, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, член рабочей группы.**

## Па ўзроўні сярэднямесячнай заработнай платы Беларусь займае 11-е месца сярод краін былога СССР

Беларусь займае 11-е месца сярод краін былога СССР па ўзроўні сярэднямесячнай заработнай платы. Аб гэтым сведчыць праведзены БелаПАН аналіз параўнальнай табліцы, апублікаванай у апошнім нумары расійскага штотыднёвіка "Аргументы и факты". Па стане на канец снежня сярэдняя зарплата ў Беларусі была эквівалентна 23 доларам ЗША. Менш атрымлівалі толькі ў Арменіі (22 долара), Грузіі (20), Узбекістане (16,5) і Таджыкістане (10). Лідэрам па гэтым паказчыку аказалася Эстонія — 310 долараў. Сярэдняя зарплата ў Літве складала 260 долараў, у Расіі — 88,6, ва Украіне — 48,8.

У той жа час у Беларусі самы нізкі сярод краін былога Саюза пражытачны мінімум — 11 долараў (для параўнання: на Украіне — 21,1 долара, у Расіі — 35,8, Азербайджане — 88,6, Таджыкістане — 100). Гэта дазволіла ёй заняць 6-е месца па суадносінах сярэднямесячнай зарплаты да пражытачнага мінімума — 2,1 раза.

Між тым, па інфармацыі "Аргументов и фактов", у канцы снежня Беларусь дзяліла апошняе месца з Азербайджанам па ўзроўні мінімальнай зарплаты, якая ў абедзвюх краінах складала 1,4 долара (для параўнання: у Таджыкістане — 2 долара, Расіі — 3,9, ва Украіне — 15,7, у Эстоніі — 81, Літве — 107,5 долара).

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

Незалежная экспертыза



*Уладзімір КУЛАЖАНКА, прафесар, доктар эканамічных навук*

## Ці будзе спынены рост цэн у наступным годзе?

Пераднавагодні гандаль, так шырока разрэкламаваны ўладамі, глыбока расчараваў насельніцтва ўсіх гарадоў і рэгіёнаў. Па-першае, чэргамі, а па-другое, да нябёсаў узляцелі цэны.

Многа шуму было вакол вырабу і пастаўкі ў гандаль шампанскага і шакаладных цукерак. Закупілі і завезлі сыравіну, вырабілі два мільёны пляшак шампанскага, дзесяткі і сотні тон цукерак. А ці прынесла гэта святочнае задавальненне пакупніку? Ні ў якім выпадку, бо цэны — 410 тысяч рублёў за пляшку напою і болей мільёна рублёў за кілаграм шакаладных цукерак — аказаліся не па кішэні большасці насельніцтва. Так што пажаданне прэзідэнта, каб бутэлька шампанскага была на святочным стале кожнай беларускай сям'і, на Новы год аказалася толькі гукам.

Як стала відавочным, у другой палове мінулага года галоўным механізмам пераадолення татальнага дэфіцыту стаў рост цэн. Відаць, іншага шляху барацьбы з дэфіцытам улады не знайшлі. Прычым узнікшы дэфіцыт важнейшых прадуктаў харчавання кіраўнікі дзяржавы вельмі часта тлумачаць прычынамі, якія ляжаць на паверхні рынычных адносін, у прыватнасці, ажыятажным попытам. Аднак калі прааналізаваць сітуацыю грунтоўна, то становіцца зразумелым, што ажыятажны попыт выкліканы неадпаведнасцю цэн на асобныя віды харчавання і іх спажывецкімі каштоўнасцямі, а таму кінуліся на больш танныя тавары. Дарагія віды харчавання, недаступныя для спажывання сем'ям з сярэднімі, тым болей нізкімі даходамі, замяшчаюцца іншымі відамі харчавання, меней дарагімі, у даным выпадку, напрыклад, малаком, кефірам, яйкамі. Вось і ўся праблема ажыятажнага попыту. Павысяцца цэны на масла і яйкі, у чым няма сумнення, узнікне ажыятажны попыт на хлеб. Умовы для такога ажыятажнага попыту ўжо створаны, бо цэны на масла і яйкі ўжо узраслі.

Рэальна дэфіцыт харчавання звязаны галоўным чынам не з ажыятажным попытам, а са скарачэннем вытворчасці. Праўда, частка вырабляемай жывёлагадоўчай прадукцыі ідзе на ўсход як разлік за паліва. І гэта нармальна. Экспарт павінен толькі вітацца, тым болей што ў абсалютных і адносных лічбах ён невялікі. І калі аказваецца, што такі экспарт знімае прадукт са стала працоўных унутры краіны, то прычына толькі ў адным — у скарачэнні вытворчасці. І як не быць скарачэнню, калі ў грамадскім сектары жывёла утрымліваецца пры бяскорміцы, можна сказаць, на галодным пайку. У Віцебскай вобласці, напрыклад, у разліку на адну ўмоўную галаву расходуецца толькі каля шасці кармавых адзінак нядобраякасных кармоў. У сутнасці гэта толькі для таго, каб тая ж карова не здохла. Не дзіўна, што сярэднясутачны надой малака ў гаспадарках Віцебскай вобласці складае дзесьці 2,5 кілаграма ад каровы. Каб выправіць становішча, Віцебскі аблвыканкам даваў заданні кожнаму раёну вобласці па нарыхтоўцы ветачнага корму. Але гэта не выхад!

За 1998 год пагалоўе буйной рагатай жывёлы зменшылася ў краіне на 67 тысяч галоў. Для выратавання статку ад бяскорміцы трэба закупіць, па ацэнцы спецыялістаў, 3 мільёны тон фуражнага зерня. Але грошай для гэтага няма. Складваецца тупіковая сітуацыя. У гэтых умовах цяжка разлічваць на напаўненне спажывецкага рынку таварнай прадукцыяй. Застаецца адна форма барацьбы з дэфіцытам — рост цэн, які абмяжоўвае попыт. Фактычна гэтая безадказная форма барацьбы з дэфіцытам ужо выкарыстоўваецца прэзідэнцкім штабам, пра што сведчыць павышэнне цэн на курынае мяса, малако, хлеб і іншыя прадукты. Гэта, відаць, і ёсць адзін з "поспехаў" у дзейнасці так званага прэзідэнцкага штаба.

Ва ўзнікшай сітуацыі людзей, безумоўна, турбуе дэфіцыт і адначасова нястрымны рост цэн. Відавочна, у гэтых умовах само сабой узнікае пытанне: што адбудзецца з цэнамі ў бліжэйшыя месяцы новага года? На жаль, адказ на гэтае пытанне не можа радаваць ні аўтара, ні чытачоў. У першыя месяцы новага года цэны будуць толькі расці. Чаму?

**Па-першае,** таму, што ўрад патрабуе ад паслухмянага Нацыянальнага банка ўсё новай і новай эмісіі пустых грошай. Летась было надрукавана новых грошай 28 трыльёнаў рублёў. Ніхто не заяўляў аб спыненні друкавання грошай і сёлета.

**Па-другое,** рост цэн абумоўлены паскоранай дэвальвацыяй (падзешаўленнем) беларускага рубля. Яшчэ напачатку адышоўшага года адзін долар каштаваў 40 тысяч рублёў, а пад канец года — 250 тысяч рублёў. Значыць, курс рубля панізіўся ў 6,25 раза. Што з гэтага вынікае? Толькі адно: цэны на ўнутраным рынку будуць паступова павышацца да сусветнага ўзроўню. Гэтага патрабуе механізм міжнароднага гандлю і разлікаў. Невыпадкова міністр гандлю Пётр Казлоў у інтэрв'ю паскардзіўся, што дзесятак яек каштуе ў нас 20—30 цэнтаў па цяперашнім валютным курсе рубля, ці ў некалькі разоў ніжэй, чым у Заходняй Еўропе. Ці ёсць тут сэнс? Несумненна, бо нізкія цэны — гэта ўмова вывазу прадуктаў за межы краіны, і неабавязкова толькі на ўсход. Таму цэны як на яйкі, так і на іншыя прадукты будуць расці. І ўжо выраслі на яйкі да 100—140 тысяч рублёў за дзесятак на свабодным рынку, а ў дзяржаўных крамах — да 85 тысяч рублёў. Як кажуць, і гэтага досыць.

Тэндэнцыя павышэння цэн прыме ўсеагульны характар. Няма сумнення, што за гарэлку ў хуткім часе давядзецца выкладваць значна больш, чым сёння. Цэны на мясамалочныя прадукты таксама будуць павышаны. І не толькі пад уздзеяннем змянення валютнага курса рубля, што не выключаецца. Але перш за ўсё пад уздзеяннем нядаўняга павышэння закупачных цэн, якое не з'яўляецца апошнім.

Цэны на хлеб, як на сацыяльны прадукт, дзяржава імкнецца не павышаць. Але нягледзячы на гэта, нават перад Новым годам такое павышэнне, перш за ўсё на пшанічны хлеб, адбылося.

Рост цэн адбудзецца яшчэ і таму, што іх прадбачыць і плануе ўрад краіны. Доказам гэтага з'яўляецца створаны на 1999 год дзяржаўны бюджэт. Рост даходнай часткі гэтага бюджэту складзе 280 працэнтаў. Узнікае пытанне: за кошт чаго? Прырост прамысловай прадукцыі плануецца толькі на ўзроўні 4—5 працэнтаў, а сельскай гаспадаркі яшчэ ніжэй. Атрымоўваецца — толькі за кошт росту інфляцыі, што прывядзе яшчэ да большага жабрацтва людзей.

Калі ў студзені мінулага года сярэдняя заработная плата была 90 долараў, у чэрвені — 74 долары, у жніўні — 59, у кастрычніку — 34, а ў лістападзе і снежні толькі 30 долараў, то можна спрагназаваць, што ў бліжэйшы час месячны заробак будзе ў межах 15—20 долараў.

Стоп-кадр



**"Сімвалы" сённяшняй Беларусі**
*Фрагмент помніка Леніну і чырвоная зорка на вярхушцы навагодняй елкі на Савецкай плошчы ў Гродне.*

**Фота IREX/ProMedia.**

Закулисье

## Что ждет Ивана Антоновича?

*Из хорошо информированных источников автору этой заметки стало известно, что глава российского правительства за последнее время уже дважды просил президента Беларуси не забыть в предпраздничных хлопотах о дальнейшей судьбе бывшего министра иностранных дел Ивана Антоновича.*

Почему Евгений Максимович Примаков так хлопочет о судьбе Ивана Ивановича Антоновича? На первый взгляд, причина, что называется, на поверхности — совсем недавно оба они возглавляли внешнеполитические ведомства России и Беларуси. Однако подлинный повод находится, если можно так сказать, "глубже". И Евгений Максимович, и Иван Иванович теперь предпочитают не вспоминать о своем более давнем прошлом. Но из песни, как известно, слово не выбросишь. Как не выбросишь из биографии российского премьера того факта, что он был членом Политбюро ЦК КПСС, так не выбросишь из биографии пенсионера Антоновича того факта, что он был секретарем ЦК Компартии России. А люди, занимавшие подобные посты, — это каста особая, которая всегда и везде тянет своих.

Исходя из этого, поговаривают о трех вариантах трудоустройства Ивана Антоновича.

Первый — он возглавит факультет международных отношений Белорусского государственного университета с перспективой превращения его в самостоятельный вуз. В пользу такого варианта свидетельствует возможный отъезд нынешнего декана Александра Шарапо на дипломатическую работу в Германию. Против — подобные учреждения во всем мире, как правило, возглавляют карьерные дипломаты, к которым Антонович не относится. Во-вторых, непонятно, куда будут устраивать выпускников этого заведения, поскольку буквально считанные лица, получившие такой диплом, среди которых и старший сын президента А.Лукашенко Виктор, были распределены на дипломатическую службу. Для других — просто не хватает мест.

Вариант второй — говорят, что Иван Антонович будет работать послом Беларуси в Норвегии, охватывая по совместительству еще две другие скандинавские страны — Швецию и Финляндию. Однако такой вариант реален только в том случае, если у Беларуси найдутся деньги для открытия дипломатической миссии в Осло.

Вариант третий — Иван Иванович якобы вернется к тому, с чего он начинал и что умеет выполнять лучше всего: на идеологическую работу. Речь идет о том, что Иван Антонович получит должность заместителя главы Администрации президента и будет курировать усиленно создаваемую в настоящее время идеологическую республиканскую "вертикаль". Однако и здесь напрашивается вопрос: что будет тогда с другим Иваном Ивановичем — Пашкевичем? Ведь эта "вертикаль" считается именно детищем Пашкевича. Но в кулуарах не исключают, что нынешний заместитель главы Администрации президента возглавит вторую программу Белорусского телевидения.

Известно, что Александр Лукашенко прилюдно обещал предоставить Ивану Антоновичу высокую должность. Как грустно пошутил в этой связи один из ветеранов белорусской внешней политики, в таком случае лучше всего было бы назначить Ивана Ивановича полномочным представителем белорусского МИДа при МИДе Российской Федерации. И после этого за ненадобностью вообще закрыть белорусское Министерство иностранных дел, ибо в последние пару-тройку лет никакой собственной внешней политики у белорусского МИДа не было и нет.

**Владимир ГЛОД.**

Надвор'е

6 і 7 студзеня на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае надвор'е, часам ападкі. Вецер паўднёва-заходні з пераходам на паўночна-заходні, 8—13 м/с, месцамі парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра 6-га ўначы +4...-1, удзень — 0...+5; 7-га ўначы і ўдзень 0...+5, к вечару паніжэнне да -1...-6.

Стоп-кадр




*Напярэдадні Новага года чэргі на заправачных станцыях рэспублікі былі звычайнай з'явай.*

**Фота IREX/ProMedia.**

Оглянемся!

## Как Сергей Костян помог Александру Лукашенко лишить Беларусь более двух миллиардов долларов

*События 1998 года: оскорбление послов ряда западных государств, резкое ограничение международных контактов высших сановников Беларуси, истерическая поддержка одиозных режимов (Югославия, Ирак), формирование идеологической "вертикали", фронтальное наступление на оппозицию, попытка проникновения президентских амбиций белорусского кандидата на политический рынок России, усиление политической активности белорусских отраслевых профсоюзов.*

*Персоны: президент А.Лукашенко инициировал практически все официальные белорусские инициативы, бывший министр иностранных дел И.Антонович безуспешно пытался оправдать дипломатический конфликт (за что, говорят, и пострадал), зам.главы президентской Администрации И.Пашкевич отвечал за реставрацию института политкомиссаров и формирование новой (читай — старой советской) идеологии, политическая оппозиция по-прежнему пыталась определить для себя несколько ключевых понятий — участвовать ли в выборах в народные депутаты разного уровня и каким образом объединиться.*

Действительно, 1998 год был ознаменован рядом громких политических скандалов. Что, собственно, вполне естественно, если учитывать то место и положение нашей республики, которое она ныне занимает в международном сообществе. Прежде всего следует отметить скандал между официальным Минском и западным дипкорпусом. Сам по себе скандал оказался завязанным на некой "канализационной проблеме", но по существу он высветил абсолютно несовместимые взгляды мировой общественности и белорусского властного истеблишмента на современные политические проблемы глобального характера. Беларусь выбрала замкнутую модель существования, что в течение последующего полугодия неоднократно подчеркивалось.

За "дроздовским" скандалом последовал громкий провал попытки Лукашенко завязать диалог в Кран-Монтане. После чего официальные белорусские газеты запестрели одиозными заявлениями отечественных политиков разных мастей. Скажем, депутат С.Костян откровенно заявил, что с Западом необходимо разговаривать только с позиции силы. Для чего не мешало бы восстановить в пределах Беларуси военный потенциал бывшего СССР (не зря, наверное, зимой 1998 года белорусская пропаганда вдруг заговорила об обнаруженном в республике оружейном плутонии), а по возможности реанимировать элементы холодной войны.

Иные депутаты всячески старались разоблачать растлевающее влияние буржуазии. Кульминацией столь агрессивной внешнеполитической активности белорусских властей стала неистовая поддержка одиозного режима Слободана Милошевича. Сам Лукашенко пообещал в случае надобности помочь дружественному югославскому народу оружием и продовольствием, которого, кстати, не хватает своему народу.

Собственно, сегодня вполне можно констатировать, что "мудрая" политика А.Лукашенко, С.Костяна и им подобных принесла ощутимые результаты: по некоторым данным, Беларусь лишилась до 700 миллионов долларов финансовой помощи международных финансовых институтов (именно в такую сумму оценивалась экспертами возможная помощь на модернизацию экономики) и до 1,5 миллиарда долларов прямых инвестиций в республиканский производственный сектор. Помимо прочего Беларусь лишилась возможности участвовать в обмене современными технологиями и занимать активную позицию в международных политических дискуссиях.

Испытывая определенного рода дискомфорт на внешнеполитическом направлении, белорусские власти попытались компенсировать собственные политические промахи за счет резкого усиления внутриполитических инициатив. Рефреном всей властной активности последних месяцев следует считать нескончаемый поиск врагов. А чтобы простому люду сие было ведомо, власть готова раскошелиться на содержание обширного штата добровольных агитаторов, пропагандистов и стукачей.

**Михаил ПОДОЛЯК.**

## У святочныя дні не абышлося без трагедый

Якім бы добрым ні было само па сабе навагодняе свята, але і ў гэтыя дні было неспакойна на дарогах рэспублікі. У аператыўнай зводцы ўпраўлення ДАІ МУС за 1 — 3 студзеня зафіксавана 17 дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх загінулі людзі. Як сведчыць статыстыка, у выніку гэтых аварый 10 чалавек развіталіся з жыццём, 24 атрымалі раненні, траўмы. Супрацоўнікі ДАІ шляхам выбарачных праверак выявілі за тры дні 390 вадзіцеляў, якія знаходзіліся за рулём у нецвярозым стане.

У адной з аварый 2 студзеня загінула намеснік старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Тамара Дудко. Здарылася гэта аўтакатастрофа на 112-м кіламетры дарогі Нарач — Мінск, недалёка ад вёскі Сваткі, у 15 гадзін 15 мінут. Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў прэс-службе ўпраўлення ДАІ, трагедыя адбылася ад сутыкнення аўтамабіляў "Вольва", у ім знаходзілася Тамара Мікалаеўна, і "Фольксвагена", які ехаў насустрач. За рулём "Вольвы" быў намеснік дырэктара ААТ "Аліварыя". Разам з Тамарай Дудко ў машыне знаходзіўся яе зяць, які таксама загінуў. Вадзіцелі аўтамабіляў засталіся жывыя.

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**

**У сувязі з кал238аднымі святамі наступны нумар "Народнай волі" выйдзе 12 студзеня.**

## Пабудуем свой дом — Беларусь

Грамадзяне, суайчыннікі, беларусы!

Над нашай Радзімай усё ніжэй і ніжэй навісае смяротная пагроза!

Ні адна партыя, якая падзяляе гэтае сцвярджэнне, на вялікі жаль, так і не змагла з'яднаць грамадзян нашай краіны.

Ні адзін лідэр з апазіцыі не мае рэйтынга, дастатковага для таго, каб на яго ўскласці надзею перамогі ў справе выратавання Бацькаўшчыны.

Зрухаў у справе аб'яднання апазіцыйных партый у адзіную моцную сілу не бачна.

Усё гэта сведчыць аб тым, што яны (лідэры, партыі) не знайшлі шлях да народа, што ім не хапае тактычнага майстэрства, што асабістыя амбіцыі ў лідэраў, як і раней, на першым месцы. І таму не дзіўна, што сам Аляксандр Рыгоравіч неяк сказаў: такую апазіцыю трэба на руках насіць.

Зыходзячы з гэтага, **паведамляем усім: на Гродзеншчыне ўтвораны арганізацыйны камітэт партыі "Наша будучыня".**

Партыя "Наша будучыня" ўтвараецца дзеля здзяйснення мэты пабудовы Незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Пабудаваць дзяржаву для народа, не абапіраючыся на абсалютную ці хаця б пераважную яго большасць, немагчыма. І таму партыя "Наша будучыня" адкрыта для ўсіх грамадзян Беларусі, незалежна ад сацыяльнага паходжання і становішча, ад месца жыхарства і нацыянальнасці. Адзінай умовай з'яўляецца любоў да нашай Радзімы, цвёрдая перакананасць у неабходнасці духоўнага адраджэння.

Галоўныя задачы партыі:

а). У сучасны момант і на бліжэйшы час: абудзіць грамадства, скінуць з яго вачэй заслону дэмагагічнага туману ідэолагаў двухмоўя, "Единого и неделимого", цынічнай хлусні дзяржаўных СМІ. І на гэтай падставе аб'яднаць грамадзян нашай краіны ў адзінае цэлае — **НАРОД.**

б) На бліжэйшую будучыню:

Прыйсці да выбараў прэзідэнта, парламента адзінай з'яднанай апазіцыйнай сілай і атрымаць перамогу.

**Арганізацыйны камітэт партыі "Наша будучыня".**

Прапановы, заўвагі, пытанні чакаем па адрасе: 230015 Гродна, вул.Будзённага 48а, пак.31. АКп "НБ".

Народная Воля 6 СТУДЗЕНЯ 1999 г.

## Тепло... из отходов

Через год после своего прихода на предприятие новый директор Поставского льнозавода П.Скурко смог осуществить задуманное и первый в стране начал выпускать по японской технологии экологически чистое, ничем не уступающее по теплоотдаче каменному углю, чудотопливо — кострабрикет. Новинку, широко применяющуюся на Западе для отопления жилищ, молодой руководитель подсмотрел в соседней Литве, где уже в нескольких местах выпускают привлекательные дровишки-брикетики. С помощью партнеров из литовской фирмы "Шумскас" удалось приобрести японское оборудование, осуществить монтаж и пробный запуск нового цеха мощностью до 5 тонн топлива за смену. Помимо обыкновенной льнотресты, для выпуска нового брикета годятся древесные опилки, любой бытовой мусор. В коллективе надеются, что потраченные более миллиарда рублей на импортное оборудование, окупятся с лихвой при теперешней нехватке топлива в Беларуси.

## Будем с горошком

Глубокский колхоз "За Родину" в ушедшем году в прямом смысле оправдал свое название и достойно представил отечественного производителя в негласном соперничестве с молдавскими, венгерскими и другими изготовителями зеленого горошка. И хотя на 80 гектарах урожай необходимого каждой хозяйке продукта из-за дождей погиб, его удалось собрать с оставшейся части площадей и поставить 156 тонн горошка на переработку на Глубокский консервный завод. Одно из крупнейших предприятий пищепрома области в год своего 50-летнего юбилея порадовало потребителей выпуском белорусских кетчупов и горчицы в современной упаковке, к своим традиционным плодоовощным консервам добавило минеральную воду двух видов. На заводе надеются, что с завершением строительства цеха глубокой переработки ягод и грибов и низкотемпературного холодильника на 500 тонн наконец-то удастся вернуться на уровень лучших времен, когда ассортимент изделий составлял более 80 наименований и в два раза превышал нынешний уровень.

**Владимир ШИК.**

**Культура**

## "Мону Лізу" ўзняў на вышыню вынаходнік з Гарадка

Тэхналогіі XXI стагоддзя прадэманстравала выстаўка, арганізаваная ў Гарадоцкім краязнаўчым музеі. На ёй прадстаўлены два дзесяткі макетаў вырабаў на торавай аснове, якія заслугоўваюць самага шырокага прымянення ў розных галінах народнай гаспадаркі і ў быце. Надзіманыя "абаранкі" могуць зрабіць у сотні разоў больш лёгкімі ўсюдыходы, зручнымі ў абыходжанні і мініяцюрнымі пральныя машыны і нават стаць цацкамі новага пакалення для дзяцей.

Жыхары Гарадка далучыліся да ноу-хау па той прычыне, што аўтар вынаходстваў масквіч Рувім Кажэўнікаў — ураджэнец гэтых месц. Яго своеасаблівай справаздачай на радзіме і была гэта выстаўка, на якой майстар прадэманстраваў у справе свае макеты.

Цікава, што торавыя тэхналогіі аўтарства Рувіма Кажэўнікава ўжо знаходзілі самае нечаканае прымяненне. Дзякуючы зробленаму ім пнеўмаўстройству была зманціраваны трохтонная каробка, у якой дэманстравалася ў Маскве вядомая "Мона Ліза".

**Вольга СІДАРОВІЧ.**

**Крымінал**

## Здзелка з фальшывымі доларамі правалілася

На цане тысяча долараў ЗША сышліся магілявчанін, які вырашыў прадаць сваю аўтамашыну замежнай вытворчасці "Фіят-рэгата", і яе пакупнік — жыхар Малдовы. Купец уручыў прадаўцу дзесяць купюр па сто долараў. З радасці яны пацiснулі адзін аднаму рукі і, задаволеныя здзелкай, разышліся.

Аднак дома гаспадар раптам засумняваўся ў сапраўднасці грашовых знакаў і звярнуўся за дапамогай у РАУС Цэнтральнага раёна горада Магілёва. Там пацвердзілі, што ўсе "зялёненькія" — фальшывыя. Работнікі міліцыі хутка вылічылі купца-ашуканца і затрымалі яго. Узбуджана крымінальная справа і вядзецца следства.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БелТА.**
Магілёў.

**Здарэнне**

## А той, хто страляў, знік

Адзін чалавек, не прыйшоўшы ў прытомнасць, памёр ад ран у бальніцы, другі знаходзіцца там на лячэнні. Такі вынік трагедыі, што адбылася 3 студзеня позна вечарам у Зэльве. А страляў у пацярпелых 37-гадовы жыхар райцэнтра. Загінуў жа, дарэчы, ва ўзросце 35 гадоў, таксама жыхар Зэльвы. Куля, як канстатавалі ўрачы, трапіла яму ў брушную поласць. Раненне ж у плячо з пісталета неўстаноўленага ўзору атрымаў 34-гадовы мінчанін. Усе трое ўдзельнікаў трагедыі займаліся перагонкай і перапродажам аўтамабіляў. Таму, хто страляў, удалося ўцячы на асабістай аўтамашыне, прычым, паводле некаторых звестак, ён перасек граніцу.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ.**

**Віншуем!**

# Анатоль Ярмоленка названы Чалавекам года

Прыемныя віншаванні і каштоўныя падарункі Бацька беларускай эстрады будзе прымаць 7 студзеня ў Нацыянальным тэатры оперы на ўрачыстай цырымоніі шанавання. Але, напэўна, самы арыгінальны "падарунак" венцаноснаму спеваку народа беларускага зрабіла Белдзяржтэлерадыёкампанія, якая днямі амаль без усялякіх прычын і тлумачэнняў закрыла аўтарскую перадачу "сяброўцаў" "Беларуская маладзёжная: студыя "Сябры" прэзентуе". Крыўдна: перадача карысталася поспехам у слухачоў, у яе эфіры гучалі папулярныя беларускамоўныя песні, на адрас студыі "Сябры" прыходзіла шмат лістоў...

Што ж, здзіўляцца няма чаму: у нашай краіне, на жаль, так павялося — там даюць, а тут адбіраюць...

**Марына КОКТЫШ.**



**На здымку:** Анатоль Ярмоленка з дачкой Алесяй.

**SOS!**

## Воспитание... нецензурщиной, пьяной бранью

Уважаемый главный редактор!

Мы, условно осужденные Миорской спецкомендатуры, решили обратиться к Вам за помощью. Мы начинаем терять веру в то, что в нашей стране можно добиться правды. Да, мы — условно осужденные, каждый из нас когда-то совершил проступок, в котором многие и, не побоимся утверждать, большинство уже раскаялись и ведут нормальный образ жизни. Однако этого не могут понять наши "надзиратели". Они относятся к нам сверх не по-людски, унижая и оскорбляя наше человеческое достоинство. Это непосредственно исходит от нашего начальника И.И.Протоса, его заместителя А.Г.Марачковского и оперативного работника В.Т.Булгака.

Условия нашего пребывания здесь просто невыносимые. В нашем небольшом послании к Вам всего не расскажешь. Но самое обидное — это то, что на нас постоянно сыплется нецензурщина, пьяная брань, а порой и физическое, по их мнению, воспитание. Куда мы только не писали, куда не жаловались! Просили разобраться, привести в норму наших "воспитателей" — прокурора в Витебске и генерального прокурора в Минске. Нет ответа! Ну что нам делать?! Остается одно: надеяться на газету. Может быть, хоть Вы обратите внимание на нас.

**С уважением к Вам условно осужденные.**

д.Горки
Миорского района.

**Чулі?**

## Як у Гомелі хавалі "саўка"

1 студзеня актывісты Гомельскай гарадской арганізацыі "Грамадзянскага форуму" развіталіся не толькі са старым годам, але і з былой эпохай.

Як вядома, у гэты дзень споўнілася 80 год з дня заснавання БССР і 40 год захопу Фідэлем Кастрам улады на Кубе. Таму менавіта гэтым датам гомельскія "форумцы" прысвяцілі сваю сімвалічную акцыю, якая называлася "пахаванне саўка". У прыгожа аздобленую імітацыю труны была пакладзена дзіцячая рыдлёўка (савок) разам з сімвалічным білетам БПСМ, і пад жалобную песню ўся гэтая атрыбутыка была засыпана зямлёю ў цэнтры Гомеля.

"Сышлі ў нябыт неандэртальцы, краманьёнцы, — сказаў на "жалобным" мітынгу Алесь Карніенка, віцэ-прэзідэнт маладзёжнай арганізацыі "Грамадзянскі форум", — а вось такая аджыўшая форма чалавека, як "савок", яшчэ не згінула. Дык давайце ж з сённяшняга дня па кроплі выціскаць з сябе саўковасць!"

Гомельскія "форумцы" ведаюць, што "савок", як вампір, мае здольнасць ажываць. Таму падрыхтаваліся да таго, што хаваць яго прыйдзецца не раз і што гэта можа ў бліжэйшыя гады стаць своеасаблівай традыцыяй. Але яны ўпэўненыя ў тым, што іхнія намаганні не пойдуць прахам, і саўковая пошасць канчаткова знікне з беларускай зямлі.

**Антон КАРАЧУН.**

## У сувязі з увядзеннем ў абарот еўра Нацыянальны банк Беларусі ўнёс змяненні ў даведнік кодаў валют

У сувязі з увядзеннем у абарот новай валюты — еўра Нацыянальны банк Беларусі накіраваў банкам ліст аб унясенні змяненняў у Даведнік кодаў валют. У ім паведамляецца, што ў адпаведнасці з рашэннем Міжнароднай арганізацыі стандартаў ISO аб унясенні змяненняў у міжнародны стандарт ISO 4217-95 "Коды для прадстаўлення назваў валют і тыпаў фондаў", Даведнік кодаў валют, зацверджаны пастановай савета дырэктароў Нацбанка Беларусі, дапаўняецца грашовай адзінкай "еўра" з літарным кодам EUR і лічбавым кодам 978.

Як паведамляў БелаПАН, афіцыйную каціроўку беларускага рубля да еўра Нацыянальны банк Беларусі пачынае ўстанаўліваць з 6 студзеня. Новая валюта павінна аб'яднаць 11 краін Еўропы, якія ў 1993 годзе падпісалі Маастрыхцкі дагавор аб увядзенні на іх тэрыторыі адзінай валюты еўра, і пакуль будзе выкарыстоўвацца толькі для безнаяўных разлікаў. Працэс увядзення еўра плануецца завяршыць да пачатку 2002 года.

**Ягор ЗВОННІКАЎ.**

**От редакции:**

*Это интервью подготовила наша коллега из "Имени" Ольга Улевич. Но знакомим мы своих читателей с ним по просьбе... читателей. Так, так, в последние дни мы только и слышали: "Пусть больше людей прочитают откровения Немцова, напечатайте..." Учитывая то, что "Народная воля" более тиражная газета и ее аудитория состоит их самых разных социальных групп, мы и решили донести беседу журналистки О.Улевич с такой известной российской личностью, как Борис Немцов, до всех наших читателей.*

# БОРИС НЕМЦОВ: "Я ПРОВЕЛ С ЛУКАШЕНКО НОЧЬ И ЧУТЬ НЕ СОШЕЛ С УМА..."

*Главный итог года нам подбросили власти буквально за несколько дней до Нового года: нас собираются присоединить к России. Отлично! Наконец, может быть, у народа проснется самосознание. С кем только нас ни объединяли, в конце концов...*

*Все чаще в связи с грядущим объединением России и Беларуси поднимается вопрос: а не собирается ли белорусский лидер стать таким образом российским царем. Да и насколько вообще реально само объединение, особенно в условиях экономичского кризиса в обеих странах? Мы предлагаем читателям "И" мнение Бориса Немцова по этому поводу.*

**Ольга УЛЕВИЧ**

— Голоса избирателей, которые поддерживают демократов, Лукашенко не заберет. На президентских выборах, если на них заявит свою кандидатуру и Александр Григорьевич, будут проблемы у Юрия Лужкова, у Геннадия Зюганова, у Александра Лебедя, у фашистов, если объявятся и такие. Все ультралевые избиратели отдадут свои голоса Лукашенко. Если все не грохнется в Беларуси. У вас же, насколько я знаю, катастрофа финансовая, и народ в очередях стоит, ограничения по многим продуктам введены. А Лукашенко - абсолютная комедия - говорит: я за единство России и Беларуси. Потом говорит: я ограничил вывоз в Россию товаров. Сильный парень. Сильнее не бывает. Он уже таможенные посты ввел у себя. И рассказывает каждый день, сколько сырков плавленых вывезли из Минска в Москву. Я сам слышал.

**— Но еще не все белорусы, а тем более россияне понимают, что Лукашенко - это катастрофа.**

— Да поняли уже! А постояв в очередях за десятком яиц, поймут все. Некоторые, совсем тупые, поймут позже. Но все-таки большинство-то людей - умные. А Лукашенко действительно классный демагог, я с ним общался лично. Выдающийся политический деятель, абсолютно циничный. Все понимающий. Будет говорить лабуду, нести бред. Но будет это делать так горячо и искренне! Знаете, как бывает иногда, когда девушка признается тебе в любви за деньги, а про себя посмеивается и свой мнтерес имеет.

**— Первые попытки объединиться с Россией Лукашенко предпринимал, когда вы были вице-премьером...**

— Да. Кстати, я - за объединение. Я только хотел бы сразу объявить цену - столько это стоит. Для российского народа очень важно, сколько мы должны платить 11-миллионному белорусскому народу, чтобы быть вместе. Мы считали цену объединения. Пенсии должны быть такие же, как в России. И зарплаты учителям, врачам, военным должны платить такие же. И таможенники должны столько же получать, правоохранительная органы и так далее. Стоить это будет России 100 миллионов долларов в месяц. Плюс надо еще Лукашенко запретиь печатать деньги, особенно если объединять денежные системы. Это очень важно. Кто будет печатать деньги? Если дать это право Лукашенко, то вопрос о 30 процентах инфляции в месяц можно не задавать. Эти 30 процентов будут не в месяц, а в день. Второе - нужно закрыть все так называемые секретные указы президента о ввозе товаров беспошлинно на территорию Беларуси. Это очень серьезное дело, это страшный криминал. Но это происходит. Есть специальные поручения, по которым ввозятся сигареты, автомобили... Есть специальный президентский фонд. Через этот фонд воруются огромные средства. Он сам не бедный человек, вы это тоже, я надеюсь, понимаете. При объединении мы ему предлагали сделать таможню российской и стать членом Совета Федерации России, губернатором. Если нет - то нет единой страны. Это должно быть понятно всем. Я ему сказал: черт с ним, будет действительно единое государство, нам выгодно, так как мы имеем транспортные маршруты, в первую очередь "Дружбу", и наш газопровод идет через территорию Беларуси. "Белтрансгаз" ваш чертов нам не платит ни копейки денег. Вы вообще живете за счет России, и вы нам уже надоели. Мы готовы вам платить 100 миллионов, но там будет контроль. Наш. Я с ним говорил как экономист: ты член Совета Федерации, пожалуйста, вот тебе почетное место, и сиди. А хочешь, тебя заместителем выберем. Нам все равно. Он сказал: "Да ты что, с ума сошел? Я же такой, как Ельцин!" Это в каком смысле? В теннис играет так же слабо, как Ельцин, это правда. А в остальном какие-то вы разные... Он все-таки царь всея Руси, а ты кто такой? У Лукашенко тяжелое положение в республике, ему нужны деньги, деньги он получить не может. Он вообще персона нон-грата. Его не пускают за границу. Ему визу даже никто не дает. У него единственная дорога - в Москву.

**— А на какой модели объединения он настаивал?**

— Он приезжает и говорит: давайте объединяться, но у нас будет в стране два пезидента, и мы будем в Кремле по очереди. Он так хочет. Второе. Деньги мы будем печатать по очереди: сегодня вы печатаете, а завтра - мы. Брест мой. Воровать через границу брестскую? Нет уж, позвольте, это мое. Плюс у меня еще цензура, плюс у меня еще государственная собственность на все, а кроме того, я буду регулировать цены и ставить посты. Так зачем нам нужна эта профанация? Нам еще за деньги надо будет платить - 100 миллионов в месяц... У нас было тогда очень весело. Борис Николаевич поручил мне с ним провести ночь. Я оттуда очень много почерпнул для себя. Честно говоря, в холодной испарине всегда просыпаюсь, когда вспоминаю эту ночь. Я ему говорю: слушай, чего ты болтаешь про объединение? Объединение - это в первую очередь экономическая интеграция. У тебя есть Новополоцкий завод, Минский тракторный. До фига всяких заводов. Давай мы сейчас их акционируем, и часть акций продадим российским компаниям. Или тем, кто купит. "Да, идея хорошая, но это очень крупномасштабная идея, мне надо подумать", - отвечает белорусский президент. Хорошо, думай. Он думает до сих пор. Новополоцкий завод уже остановился из-за его раздумий. Хотя мог с ЛУКойлом заключить хороший контракт. Я этим занимался. Но лучше самому сто тонн мазута продать, чем позволить нормально работать предприятию. Еще предложение с моей стороны: давай три магазина откроем в Минске - "Москва", "Петербург" и "Нижний Новгород". Только не халупу, не химчистку на окраине Минска. Продай нам нормальное помещение. Мы готовы купить. Я подключу людей, которые сетью магазинов занимаются. Они купят, сделают нормальные магазины. И будет символ дружбы. А у себя "Минск" откроем. Он говорит: ладно, хорошо. Я дал указание Коху, он тогда работал министром госимущества. Говорю: Кох, слушай, три магазина надо приватизировать, давай программу. Мы послали туда бригаду. Она приехала в слезах через две недели: "Они дебилы, кретины, мы с ними работать не можем". В чем дело? Дали на окраине полуразвалившееся здание, которое надо достраивать, и предложили назвать магазин "Москва". Но мы не можем магазин "Москва" в развалюхе организовать. Про "Нижний" я уже просто не говорю. Там просто какую-то деревню предлагали. Я ему звонил из-за этих несчастных трех магазинов. Он нам так ничего и не разрешил. Вы должны понимать, кто такой Лукашенко. А сейчас символ дружбы с белорусским народом я вижу перед глазами. Я живу на Садово-Кудринской. Она выходит на Садовое кольцо. Там девушки из Беларуси - пожалуйста, любые. Каждый божий день. И, кроме них, больше ничего. Это правда. Даже моя дочь это знает. Так получилось, у нас под окнами такое место лобное. Так вот, там жизнь и объединение действительно кипят...



## Прэзідэнт Украіны і прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі заклікалі кіраўнікоў краін выдзеліць сродкі ў Міжнародны чарнобыльскі фонд "Сховішча"

Напярэдадні новага года прэзідэнт Украіны Леанід Кучма і прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Тоні Блэр, які старшынствуе цяпер у "вялікай сямёрцы", накіравалі агульны ліст кіраўнікам 10 краін — патэнцыяльных укладчыкаў Міжнароднага чарнобыльскага фонду "Сховішча". Аб гэтым паведаміла інфармацыйнае агенцтва УНІАН са спасылкай на прэс-службу прэзідэнта Украіны.

У лісце Л.Кучмы і Т.Блэра адзначаецца неабходнасць больш хуткага правядзення работ на чарнобыльскім саркафагу з мэтай павышэння яго бяспекі. Лідэры дзвюх краін звярнулі ўвагу сваіх калег на тое, што менавіта для фінансавання гэтага праекту ў 1997 годзе быў створаны спецыяльны міжнародны фонд, які ўжо сёння мае каля 400 мільёнаў долараў ЗША. Аднак для поўнага завяршэння работ на чацвёртым энергаблоку Чарнобыльскай АЭС неабходна 760 мільёнаў долараў. Л.Кучма і Т.Блэр выказалі надзею, што іншыя краіны таксама змогуць узяць на сябе абавязацельствы па аказанні фінансавай падтрымкі і выдзеліць сродкі для рэалізацыі праекту "Сховішча".

**УНІАН — БелаПАН.**

## Найбольш беднай катэгорыяй грамадзян у Беларусі з'яўляюцца дзеці, якія выхоўваюцца ў вялікіх сем'ях

Самай беднай катэгорыяй грамадзян у Беларусі з'яўляюцца дзеці — асабліва тыя, якія выхоўваюцца ў вялікіх сем'ях. Гэта лічбы выбарачнага абследавання хатніх гаспадарак, праведзенага Міністэрствам статыстыкі і аналізу рэспублікі.

Сярод адзінокіх людзей малазабяспечаныя грамадзяне складаюць 9,3 працэнта, сярод членаў бяздзетных сем'яў — 17,9 працэнта, у поўных сем'ях з адным дзіцем — 22 працэнты, з двума — 37,9 працэнтаў, з трыма і больш — 61 працэнт. Яшчэ горш справы ў вялікіх няпоўных сем'ях: 82,7 працэнта няпоўных сем'яў з трыма і больш дзецьмі забяспечаны ніжэй за пражытачны мінімум. Калі ж аналізаваць узроставы склад малазабяспечаных, то сярод дзяцей да 15 гадоў іх колькасць складае 36,5 працэнта.

**Марына КУНОЎСКАЯ.**

## Першае ў новым годзе наўмыснае забойства ўчынена ў Гомельскай вобласці

Першае ў гэтым годзе наўмыснае забойства ўчынена ў Гомельскай вобласці.

3 студзеня каля 5 гадзін раніцы ў адной з кватэр дома N 47 па вуліцы Савецкай у Калінкавічах ўзнік пажар. Калі агонь удалося патушыць, у памяшканні былі знойдзены целы 24-гадовага сезоннага рабочага аднаго з нафтавых упраўленняў Ніжнявартаўска Цюменскай вобласці Расіі, раней судзімага, і яго 4-гадовай дачкі. На абодвух трупах зафіксаваны шматлікія колата-рэзаныя раны.

Паводле паведамлення прэсслужбы УУС, узбуджана крымінальная справа па артыкуле 100 Крымінальнага кодэкса Беларусі — "наўмыснае забойства пры абцяжарваючых абставінах".

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## Чакаецца, што ўзровень рэнтабельнасці сельскіх гаспадарак Беларусі ў 1998 годзе ў параўнанні з папярэднім годам знізіцца больш чым на 3 працэнты

Па інфармацыі Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, у студзені—лістападзе 1998 года ў гаспадарках рэспублікі выраблена прадукцыі на 199.896 мільярдаў рублёў. Гэта склала 99,2 працэнта да аналагічнага перыяду 1997 года ў супастаўных цэнах.

Паводле папярэдніх падлікаў, у 1998 годзе агульны ўзровень рэнтабельнасці ў гаспадарках складзе 8 працэнтаў супраць 11,3 у 1997 годзе. Мінулы год завяршылі са стратамі 639 гаспадарак (у 1997 годзе іх было 369). Па колькасці стратных гаспадарак лідзіруе Магілёўская вобласць (42 працэнты ад агульнай колькасці сельгаспрадпрыемстваў), далей ідуць Віцебская (34 працэнты), Мінская (32), Гомельская (19), Брэсцкая (15) і Гродзенская вобласць (2 працэнты).

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**

## 14 студзеня ў Чырвоным касцёле ў Мінску адбудзецца вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння вядомага дзеяча нацыянальнага адраджэння ксяндза Вінцука Гадлеўскага

14 студзеня ў сталічным касцёле святых Сымона і Алены адбудзецца вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння вядомага дзеяча нацыянальнага адраджэння ксяндза Вінцука Гадлеўскага.

Як паведаміў БелаПАН старшыня Мінскага гарадскога грамадска-асветнага клуба "Спадчына" Алесь Белы, напярэдадні юбілею вядомага дзеяча нацыянальнай культуры і беларускага касцёла, клуб заснаваў памятны медаль В.Гадлеўскага "За беларускасць у набажэнстве". Па словах А.Белага, ім будуць узнагароджвацца выдатныя дзеячы беларускага праваслаўя і касцёла, якія ў наш час сталі піянерамі беларускасці ў набажэнстве. Як адзначыў А.Белы, першы медаль В.Гадлеўскага будзе ўручаны настаяцелю касцёла святых Сымона і Алены ксяндзу-магістру Уладзіславу Завальнюку.

Як вядома, Вінцук Гадлеўскі ўжо ў час Кастрычніцкага перавароту адным з першых стаў весці службу на беларускай мове. Жывучы ў Вільні, ён выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі, у сваім выдавецтве выпускаў беларускамоўныя газеты, усяляк падтрымліваў беларускую нацыянальную культуру ў Віленскім краі. У 1942 годзе актыўны дзеяч нацыянальнага адраджэння, стваральнік Беларускай незалежнай партыі Вінцук Гадлеўскі быў расстраляны ў Мінску нямецка-фашысцкімі акупантамі.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

## Скульптар Уладзімір Слабодчыкаў прадставіў мадэль помніка першаму народнаму артысту Беларусі Уладзіславу Галубку

Як стала вядома БелаПАН, на чарговым пасяджэнні Мінскага гарадскога грамадска-асветнага клуба "Спадчына" вядомы беларускі скульптар загадчык кафедры скульптуры Беларускай акадэміі мастацтваў Уладзімір Слабодчыкаў прадставіў мадэль помніка першаму народнаму артысту Беларусі Уладзіславу Галубку.

Помнік, што ствараецца па заказе "Спадчыны", плануецца ўстанавіць у адным з кварталаў Траецкага прадмесця сталіцы. Скульптар выявіў выдатнага беларускага пісьменніка, рэжысёра, акцёра, мастака і тэатральнага дзеяча ў поўны рост у нацыянальным касцюме.

Як вядома, Уладзіслаў Галубок з'яўляецца адным з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага тэатра. У 1920 годзе ён стварыў свой тэатр (трупа Галубка), які прадоўжыў традыцыі першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага, шырока выкарыстоўваў песенна-музычную і харэаграфічную народную творчасць, адрозніваўся жанравай разнастайнасцю. Ул.Галубок — аўтар каля 40 драм і камедый на гістарычныя і бытавыя тэмы з народнага жыцця. Яго п'есы адрозніваліся сцэнічнасцю, вастрынёй канфлікту, многія з іх напісаны ў жанры меладрамы з кантрастным супрацьпастаўленнем дабра і зла. Камедыі насычаны каларытным народным гумарам, характарызуюцца вострымі сітуацыямі з сатырычнай афарбоўкай. Ул.Галубок творча развіваў традыцыі старадаўняга народнага тэатра, быў яркім выканаўцам драматычных і характэрных роляў. У 1937 годзе Уладзіслаў Галубок разам са сваімі выхаванцамі быў рэпрэсаваны. Яго тэатр быў закрыты, а трупа практычна ўся знішчана.

Дарэчы, напярэдадні Новага года ў сталічным тэатры "Вольная сцэна" адбыўся спектакль па класічным творы Ул.Галубка "Паваліўся нехта". Пасля спектакля камітэт па ўшанаванні клуба "Спадчына" уручыў галоўнаму рэжысёру тэатра Валерыю Мазынскаму і народнаму артысту Беларусі Паўлу Дубашынскаму памятныя медалі Ул.Галубка "За руплівасць на ніве беларускага тэатра і Адраджэння".

**Марат ГАРАВЫ.**

## БелЭКСПО рыхтуецца да "Аўташоу-99"

Нацыянальны выставачны цэнтр БелЭКСПО пры садзейнічанні шэрагу міністэрстваў і асацыяцый разгарнуў падрыхтоўку да правядзення традыцыйнага веснавога "Аўташоу-99". Яно будзе праходзіць у Мінску з 28 красавіка па 3 мая адразу на дзвюх выставачных пляцоўках. Запланавана таксама будаўніцтва двух дадатковых павільёнаў з часовых канструкцый.

Як стала вядома карэспандэнту БелТА, наведвальнікі "Аўташоу-99" змогуць пазнаёміцца з поўнымі вытворчымі праграмамі вядучых аўтамабілебудаўнічых фірм сусветнага ўзроўню. Такіх, напрыклад, як "Фольксваген", "Мазда", "Пежо", "Таёта", "БМВ", "Субару", "Форд". Шырокі паказ дасць магчымасць прадэманстраваць усе сферы іх дзейнасці — ад распрацоўкі вытворчасці і эксплуатацыі аўтамабіляў да працэсаў рамонту і другаснага выкарыстання дэталей і матэрыялаў.

**Таццяна СМІРНОВА.**

## Правительство внесло дополнения в порядок распределения выпускников

Нанимателям независимо от форм собственности запрещается принимать на работу выпускников государственных высших и средних специальных учебных заведений, обучавшихся за счет бюджетных средств, в течение двух лет после окончания учебного заведения без удостоверения о направлении на работу или справки о возможности самостоятельного трудоустройства. Об этом говорится в недавно принятом постановлении правительства.

В документе отмечается также, что запрещается увольнять выпускников вузов и средних специальных учебных заведений до окончания обязательного срока работы, за исключением увольнения по инициативе нанимателя за соответствующие проступки. В случае невыполнения этих требований наниматель должен будет возместить в бюджет, из которого осуществлялось финансирование обучения, средства, затраченные на учебу выпускника. В случае отказа от добровольного возмещения этих средств их взыскание будет осуществляться в судебном порядке.

В постановлении правительства также отмечается, что для удовлетворения потребности в специалистах важнейших отраслей хозяйства республики, сельских районов и регионов, пострадавших от чернобыльской катастрофы, осуществляется целевая контрактная подготовка специалистов. Их распределение и трудоустройство в этом случае осуществляется в соответствии с условиями контракта, типовая форма которого утверждается в Министерством образования по согласованию с Минтруда и Минэкономики.

Если выпускник откажется отправиться на работу согласно заключенному контракту, не явится к месту распределения или уволится с места работы без отработки установленного в контракте срока, гражданин, заключивший контракт, обязан возместить затраченные на обучение средства. В случае отказа они будут взысканы в судебном порядке.

**БелТА.**

## Прадстаўнікі арганізацый ветэранаў працы просяць прэзідэнта вярнуць ім асноўныя льготы

Прадстаўнікі грамадскіх арганізацый ветэранаў працы звярнуліся да прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі з адкрытым лістом. У ім змяшчаецца просьба вярнуць ветэранам працы асноўныя льготы на працягу 1999 года, які афіцыйна абвешчаны ААН Міжнародным годам састарэлых людзей.

Размова ідзе, у прыватнасці, аб бясплатным праездзе ў грамадскім транспарце, магчымасці бясплатна набываць лекі, а таксама аплачваць жыллё па льготных тарыфах. Гэтыя льготы, прадугледжаныя артыкуламі Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ветэранах", былі адменены ўказам прэзідэнта ад 1 верасня 1995 года. Пры гэтым аўтары ліста адзначаюць, што ў саюзнай Расіі такія льготы не адменены, яны дзейнічаюць з моманту прыняцця Закона аб ветэранах.

У першы раз з падобнай просьбай ветэраны працы звярталіся ў Адміністрацыю прэзідэнта ў другой палове 1998 года, аднак адказу на яе не атрымалі. Адкрыты ліст да прэзідэнта ад імя ветэранскіх структур падпісаў старшыня грамадскай арганізацыі "Сацыяльная абарона ветэранаў працы аўтасельгасмашынабудавання" Іван Радзько.

**Наталля КУЛАГІНА.**

